*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо...*
Якуб Колас

**№ 188 (770)**
Аўторак, 12 кастрычніка 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 25000 руб., па падпісцы — 18000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля





**Слышали?**

## Деньги, деньги, деньги...

*Эти две небольшие заметки связывает одна, но очень важная для всех нас материя — деньги, главное качество которых, как известно — их количество, которого катастрофически не хватает. Например, когда в одном месте мы его теряем, в другом — не получаем.*

### Прихоть одного человека уже стоит Беларуси без малого 120 тысяч долларов

Как ни старались официальные власти Беларуси хранить это решение в тайне, оно стало известным. В предпоследний день сентября Совет министров Беларуси принял специальное постановление, согласно которому Министерство финансов должно до конца 1999 года выделить МИДу 119.500 долларов США. "Зеленые" уйдут для выплаты Посольству Соединенных Штатов Америки в виде компенсации в связи с вынужденным прекращением аренды этим Посольством здания в комплексе "Дрозды".

Напомню, что инцидент с выселением белорусскими властями послов ряда западных государств (США, Германии, Франции и др.) из арендованных ими в "Дроздах" резиденций имел место в июне 1998 года. Места в этом элитном еще с партийно-советских времен поселке дипломаты начали получать вскоре после провозглашения Республики Беларусь суверенным государством. Ни Станиславу Шушкевичу, ни Вячеславу Кебичу — тогдашним руководителям Беларуси — зарубежные гости не мешали.

На первых порах не докучали дипломаты и первому президенту Беларуси. Однако чем больше осложнялись отношения между западными странами и Беларусью, чем больше реконструировался поселок, тем неуютнее чувствовал себя Александр Лукашенко рядом с такими соседями. Впрочем, соседи тоже понимали некоторую неловкость ситуации и готовы были покинуть "Дрозды". Но сделать это они хотели прилично, как это практикуется в цивилизованном мире. Однако белорусской стороне очень не терпелось...

В знак протеста дипломаты были отозваны в столицы своих государств, но в нынешнем году вернулись и возобновили свою работу. Это стало возможным благодаря достигнутым с белорусским Министерством иностранных дел договоренностям об аренде новых резиденций для дипломатов и о компенсации потерь, понесенных ими в результате действий белорусских властей. Кроме того, белорусская сторона предоставила гарантии, что ею будут соблюдаться все обязательства в соответствии с Венской конвенцией о дипломатических отношениях.

Таким образом, прихоть одного человека уже обошлась белорусскому бюджету без малого в 120 тысяч долларов. Именно государственному, а не президентскому бюджету — поскольку, согласно совминовскому постановлению, рублевый эквивалент этих валютных средств будет отнесен на счет средств, предусмотренных в республиканском бюджете на финансирование международной деятельности.

### Как поссорились Петр Прокопович с Валерием Цепкало

Крупной ссорой между главой Национального банка Беларуси Петром Прокоповичем и послом Беларуси в США Валерием Цепкало завершилась поездка в Вашингтон группы белорусских чиновников во главе с вице-премьером Геннадием Новицким, отправившихся на ежегодные встречи Международного валютного фонда (МВФ) и Всемирного банка.

В Вашингтоне члены делегации, как они уже это делали всякий раз, поставили вопрос о кредитовании Беларуси по линии "стэнд-бай". А в нынешнем году они попросили помощи еще и по Программе чрезвычайного компенсационного финансирования — последнее связано с нынешним плохим урожаем в Беларуси.

Международные чиновники внимательно выслушали белорусских гостей и... развели руками. "Как же так получается? — недоумевали они. — Вы рассказываете нам о плохой погоде, о низких урожаях, а ваш посол в США на днях представил совершенно иную информацию. По его сведениям, в Беларуси полный о'кей, постоянно растет производство как в экономике, так и в аграрном секторе, Беларусь четко двигается по намеченному ее руководством плану. Так зачем же вам помогать?! В мире немало государств, где не только нет такого значительного роста базовых показателей, как в Беларуси, но и вообще с продуктами питания худо...".

Потому в кредитах на закупку зерна Беларуси пока отказали. Сытым, мол, непристойно стоять с протянутой рукой.

Понятно, что такая несогласованность действий двух ведомств вызвала бурную реакцию. Утверждают, что Петр Прокопович по этой причине вдрызг разругался с Валерием Цепкало и даже запретил послу участвовать в последней встрече с финансовыми "акулами". И только г-н Новицкий хранил видимость спокойствия. В интервью агентству Рейтер он подчеркнул, что даже без кредитов Беларусь сумеет обеспечить себя продовольствием. "Если у нас будет меньше зерна, мы просто будем есть больше картофеля", — цитирует Рейтер белорусского вице-премьера.

**Владимир ГЛОД.**

**Демократия по-белорусски**

## Государство гарантирует свободу шествий и демонстраций. А Минский горисполком?

На прошлой неделе Минский горисполком приступил к рассмотрению вопроса о Марше Свободы, планируемом демократическими силами на воскресенье 17 октября 1999 года. Как уже сообщалось, демонстрация и митинг имеют целью поддержку переговорного процесса власти с оппозицией, установление демократии и законности, интеграции Беларуси в международное сообщество. Поддержку всего того, о приверженности к чему заявляют и власть, и оппозиция.

Минский горисполком уже санкционировал проведение митинга. Сегодня, 12 октября, — последний день, когда, в соответствии с декретом, городские власти должны дать окончательный ответ о проведении самого Марша Ссвободы.

Как оказалось, принять решение, соответствующее Конституции, нынешним управленцам не просто. На заседании горисполкома отдельные представители вертикали пытались найти причины, которые якобы могут помешать проведению демонстрации и митинга в центре столицы.

Так, у дорожников именно в этот день — авральные работы на мосту через железнодорожные пути, и поэтому проведение митинга на площади Независимости не позволит им завершить в срок запланированный объем работ.

Милиция будет задействована на охрану проводимой именно в этот день на проспекте Машерова ярмарки. А количества имеющегося в столице ОМОНа недостаточно(!), чтобы обеспечить безопасность еще одного мероприятия.

Прокуратура ни с того ни с сего вдруг заговорила о недопустимости перекрытия движения транспорта (?).

Тем не менее свобода шествий и демонстраций гарантирована Конституцией. Эта правовая норма обладает высшей юридической силой. В основном законе (в том числе и в принятом в 1996 году. — Авт.) об этом написано прямо и недвусмысленно — в случае расхождения закона (декрета или указа) с Конституцией действует Конституция.

Об окончательно принятом решении читатели будут проинформированы.

**Валерий ЩУКИН,**
**член оргкомитета Марша Свободы.**

**Стоп-кадр**

Пажылы чалавек выходзіць з чаргі з кавалкам мяса, які купіў на асеннім кірмашы на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. Здавалася б, варта радавацца. Але на яго твары радасці не відаць.

**Фота IREX/ProMedia.**

## Актывісты БНФ ніколі не згодзяцца са стратай незалежнасці ў выніку аб'яднання Расіі і Беларусі ў саюзную дзяржаву

Усё больш і больш нашых грамадзян не прымаюць так званага "аб'яднання" Расіі і Беларусі — заявіў БелаПАН адзін з лідэраў Беларускага народнага фронту Вячаслаў Сіўчык, каменціруючы факт апублікавання праекта Дагавору аб саюзнай дзяржаве.

Сімвалічна, лічыць В.Сіўчык, што з раніцы па расійскіх тэлеканалах інфармацыя аб абнародаванні дагавору ішла на фоне паведамленняў пра баявыя дзеянні на Каўказе. "Усё больш людзей разумеюць, што саюз з Расіяй — гэтай вайна і галеча.

Першым вынікам рэалізацыі дагавору, такіх яго артыкулаў, як 16 (функцыянаванне рэгіянальнай групоўкі войскаў) стане тое, што нашы грамадзяне будуць плаціць сваёй крывёю за бясконцыя войны, якія будуць весціся на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, а магчыма, і іншых дзяржаў", — сказаў В.Сіўчык.

Ён таксама падкрэсліў, што дагавор супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, паколькі ў ім закладзеныя механізмы па ліквідацыі беларускага суверэнітэту ў палітычнай, эканамічнай, фінансавай, ваеннай і іншых сферах. "Беларускі народны фронт, яго староннікі і ў цэлым апазіцыя ніколі не прызнае гэтага дакумента. Варта нагадаць, што Аляксандр Лукашэнка на сёння не з'яўляецца легітымным прэзідэнтам і не мае ніякага права падпісваць такія дакументы", — заявіў В.Сіўчык.

Ён нагадаў, што ў Канстытуцыі ёсць норма, якая дае права грамадзянам краіны абараняць незалежнасць сваёй краіны ўсімі сродкамі. Такім чынам, лічыць В.Сіўчык, гэты дагавор прывядзе да ўзнікнення вострых канфліктаў у адносна спакойнай пакуль Беларусі. БНФ, паводле ягоных слоў, плануе шэраг мерапрыемстваў у абарону незалежнасці краіны — першым з іх стане Марш Свабоды 17 кастрычніка.

Заключэнне саюзнага дагавору з Расіяй В.Сіўчык тлумачыць тым, што ўлады разумеюць бесперспектыўнасць праводзімай імі палітыкі і спрабуюць, такім чынам, вырвацца з тупіка, у які загналі краіну. Аднак, паводле слоў адказнага сакратара ўправы БНФ, ніякай эканамічнай мэтазгоднасці гэты дагавор не мае. Беларускай эканоміцы неабходны перш за ўсё інвестыцыі і сучасныя тэхналогіі. Усяго гэтага ў Расіі няма, а ёсць толькі найвышэйшы ўзровень карупцыі, злачыннасць і бясконцыя войны.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## У Гродне актывізуюцца прыхільнікі "РНА"

У Гродне былі расклееныя ўлёткі "Рускага нацыянальнага адзінства" — гэта ўжо трэці выпадак за апошнія тры месяцы, калі аднадумцы лідэра РНА Аляксандра Баркашова заяўляюць аб сваім існаванні ў Гродне.

У першых двух выпадках па горадзе былі расклееныя ўлёткі са зваротам А.Баркашова "Мы — руская сталь" і распісаныя чорнай фарбай надпісамі "РНА" сцены будынкаў, агароджы, прыпынкі грамадскага транспарту і г.д.

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

**Адкрытым тэкстам**

*Мікалай ЮРКОЎ, старшыня калгаса "Дрыбінскі" Дрыбінскага раёна*

## Пакуль будзе прыгоннае права, вёсцы не падняцца з каленяў

*Напісаць у газету мяне прымусіў Аляксандр Лукашэнка. Памятаеце, як ён, выступаючы ў Брэсцкай вобласці на жніве, паабяцаў данесці да народа, аб чым там вялі размову "фашиствующие националисты" на з'ездзе БНФ, выдаць стэнаграму з'езда. А паколькі я таксама з тых шэрагаў і быў на тым з'ездзе, падрыхтаваўся выступіць, але не хапіла часу ўсім, таму лічу, што стэнаграма будзе няпоўнай. Дарэчы, я ўважліва сачу за прэсай, і пакуль што наогул не бачыў той "стэнаграмы". А вось, шаноўныя чытачы, той тэкст, які я хацеў агучыць на з'ездзе БНФ.*

"Шаноўныя дэлегаты! Усіх нас прывёў на гэты з'езд клопат за Бацькаўшчыну, боль за Беларусь, за захаванне дзяржаўнасці, за дабрабыт нашага народа. Я не палітык, я — вытворца, працую ў сельскай гаспадарцы старшынёю калгаса. Удзельнічаць у гэтым форуме мяне прымушае тая няўклюдная палітыка, якая на карані знішчае сельскую гаспадарку. Усе разлікі паказваюць, што "фініш" не за гарамі. Паколькі я ў апазіцыі да гэтай палітыкі, то, здавалася б, трэба радавацца такому канцу. Але ж гэта далёка не так. Людзі, даведзеныя да галечы і голаду, могуць такога натварыць, што хопіць, як кажуць, усім — правым і вінаватым. Таму наша задача — не дапусціць канчатковага разбурэння гаспадаркі.

Дык што рабіць? На мой погляд, трэба больш актыўна весці растлумачальную асветніцкую працу мовай прыкладаў і фактаў, зразумелай простым людзям. Адчыняць вочы і прамываць вушы. Напрыклад, "усенародна абраны" крычыць: "Вінавата жуллё, злодзеі". Прыводжу свой вопыт. Я летась дзеля эксперыменту паклаў у банк 2,5 мільёна рублёў на тэрміновы ўклад пад 40 працэнтаў гадавых. Мінуў год. Што ж атрымалася? На 31 мая 1998 года гэтая сума азначала 44 долары па рынкавым курсе ці 70 долараў — па курсе Нацбанка. 19 жніўня 1999 года на маім рахунку было ўжо 3 мільёны 934 тысячы рублёў — 8,3 долары па рынкавым курсе альбо 14,3 долара па курсе Нацбанка.

Такім чынам, я ўзяў у пяць разоў меней, чым паклаў. А калі дапусціць, што кожны жыхар Беларусі паўтарыў мой "эксперымент", то атрымліваецца, што дзяржава ўкрала ў сваіх грамадзян больш за паўмільярда долараў (не ўсім плацяць тыя сорак працэнтаў). Дык ці можа ўсё "жуллё" (разам узятае) так мяне пакараць? Вось вам яскравы прыклад, чаму бяднеюць людзі пры росце вытворчасці. І гэта ціхае спусташэнне тваёй кішэні значна горшае за прамы крадзёж ці рабаўніцтва. Бо калі злодзей ў цябе ўкраў грошы, то ты шукаеш паратунку ў міліцыі або зловіш і надаеш кухталёў (калі здолееш), а тут паспрабуй разабрацца (рабаўніцтва відавочнае, але ж пад вялікі клопат аб тваім дабрабыце: толькі глядзі тэлевізар). Як тут не ўспомніць неўміручага Крапіву: "Гэта ж вам падносяць фігу на талерцы".

Каму несці сваю крыўду? Не прынята на рабаўніцтва скардзіцца рабаўніку. Вось адкуль тыя "базары", "дажынкі", лядовыя палацы. Яны робяцца галоўным чынам за кошт тых, каму яны меней за ўсё патрэбны. Бо тыя, хто імі карыстаецца, сваіх грошай у беларускіх рублях не атрымае.

Раней нашы "саўкі" думалі: пры дапамозе ўзвядзення палацаў культуры можна вырашыць пытанне працоўнай сілы на вёсцы. Патрэбны нармальныя ўмовы жыцця і селяніну, і спартсмену. Тады с палацамі неяк само вырашыцца.

Зойдзем з другога боку. Той жа валютчык, калі б я ў яго купіў долары, захаваў бы мае грошы, я нічога не згубіў бы. Але ж тады я парушыў бы закон. Дык што рабіць простаму чалавеку, як захаваць што-небудзь хаця б на пахаванне?

І яшчэ. Ёсць, скажам, і ў пенсіянераў залішні мех-другі бульбы, гародніны ці які літр малака... Здавалася б, дбайны ўрад павінен зрабіць усё, каб зняць перашкоды па рэалізацыі, каб яны маглі прадаць сваю прадукцыю і адразу атрымаць грошы. Але, на жаль, пра дзяржаўныя ўстановы ў гэтай справе няма ахвоты нават гаварыць. А вось пасрэднік прыехаў бы да кожнага, забраў і адразу на месцы заплаціў бы. Вядома, ён і сябе не забудзе, але ж, па-першае, ніхто без асабістага інтарэса добра працаваць не будзе, па-другое, створыцца канкурэнцыя паслуг на карысць таго ж селяніна. Нашы вышэйшыя "саўкі" не здольны вытрымаць канкурэнцыю са свабоднымі пасрэднікамі, таму іх галоўны аргумент — забарона. Ствараецца ўражанне, што галоўны іх клопат, каб не было багатых, а значыць, і незалежных людзей. Нават тыя з электарату Лукашэнкі, якія гатовы на яго маліцца, не будуць вырошчваць больш, калі не змогуць прадаць з выгадай. Забарона вывазу прадукцыі вядзе да жабрацтва ўсіх — і тых, хто прадае, і тых, хто купляе. Пасрэднік — гэта сувязь паміж вытворцам і спажыўцом. Ён стымулюе і вытворчасць, і спажыванне. Гэта толькі па "саўкова-камуністычнай" ідэалогіі ён "вшивая блоха". У разумных кіраўнікоў гэта рухавік прагрэсу. Калі клопат аб селяніне сапраўдны, то плаціце даражэй, чым пасрэднікі. І ўсё будзе ваша, ніякія пасты не патрэбны.

Зараз чуваць дзяржаўны кліч: дасягнуць узроўню вытворчасці канца 80-х — пачатку 90-х гадоў, які ўзяты за ўзор росквіту сельскай гаспадаркі. На мой погляд, росквіт не тады, калі селянін дае больш прадукцыі, а тады, калі ён можа карыстацца вынікамі таго росквіту. Пабудаваць прыстойнае жыллё, купіць машыну (селяніну яна больш патрэбна, чым гараджаніну), заасфальтаваць, нарэшце, вуліцы. Дзе гэта ўсё?

Знікла, саржавела, разбурылася за такі кароткі тэрмін? Каўбасу і тую свабодна можна было купіць толькі ў Маскве ці Мінску.

Або такі прыклад. Лукашэнка не без падстаў пагражае сельгасвытворцам, што ён пусціць палякаў на наш рынак з больш таннай прадукцыяй, бо ў апошніх узніклі цяжкасці ў сувязі з канкурэнцыяй з боку Германіі. На жаль, усё праўда, бо польскія сяляне ў параўнанні з немцамі лічаныя гады як атрымалі свабоду, і ў іх ужо цяжкасці з рэалізацыяй (нам бы іх клопаты). Але ж не пусціць іх Лукашэнка на наш рынак, бо будзе канец усёй сістэме калгасна-саўгаснага ладу.

Нас сёння папракаюць, што шмат дзе тэхналогія вытворчасці на ўзроўні прыгоннага права. Каб трошкі больш адукацыі, то наша кіраўніцтва зразумела б, што пры прыгонніцкіх вытворчых адносінах не можа быць іншай тэхналогіі.

Цяпер наконт уздзеяння афіцыйнай прапаганды на электарат. Нават я, чалавек, які атрымаў вышэйшую эканамічную адукацыю, калі гляджу тэлевізар, то ў першыя хвіліны іншы раз паддаюся гіпнозу прамоўцы, і хочацца верыць усяму сказанаму (не можа нармальны чалавек не верыць выступаючаму, які шчыра б'е сябе ў грудзі). Але ж я ўсё жыццё лічу, аналізую, перш чым прыняць правільнае рашэнне (работа такая). Таму мне лягчэй "отделить зерна от плевел", а што рабіць звычайнаму рабочаму або селяніну?!

Няма такой цаны, якую шкада было б заплаціць, каб гэтыя відавочныя ісціны былі зразумелыя кожнаму. Толькі тады будзе нейкая надзея на перамены да лепшага. Здаецца, можна і пачакаць. Становішча спраў такое, што ў рэшце рэшт народ зразумее, дзе тая праўда, але каб не было як той цялушцы, якая зразумела, чаго гаспадар зайшоў да яе ў катушок з нажом, ды позна было.

У апошні час я яшчэ больш упэўніўся, што дасведчаныя людзі павінны несці праўду свайму народу сёння, не перакладаць гэтую справу на плечы дзяцей і ўнукаў".

*Аляксандр Рыгоравіч! Стрымайце слова, выдайце нашы выступы ў дзяржпрэсе, буду вельмі Вам удзячны!*

*Павел КОЗЛОВСКИЙ, экс-министр обороны Республики Беларусь, член Политсовета Объединенной гражданской партии*

## Белорусская армия сегодня и ее будущее

Находясь на географическом перекрестке, где сходятся пути из различных частей Европы и мира и, соответственно, перекрещиваются стратегические, политические, экономические и иные интересы различных стран, наша Беларусь должна изыскивать новые подходы, принимать нестандартные решения, чтобы занять достойное место среди других государств и обеспечить надежное основание для упрочения своего суверенитета и независимости.

Я считаю, что надо проводить свою внешнюю политику на основе активного прагматичного и сбалансированного взаимодействия и сотрудничества со всеми государствами и членами мирового сообщества, признания и соблюдения общественных норм международного права и безусловного соблюдения взятых на себя международных обязательств.

Нужен разумный баланс между так называемым восточным и западным векторами нашей внешней политики.

В Конституции Республики Беларусь (в том числе и не признанной прогрессивным миром — 1996 года) четко записано, что Беларусь ставит своей целью сделать свою территорию безъядерной зоной, а государство — нейтральным.

Исходя из этого, в республике должна быть построена система национальной безопасности, которая включает в себя политическую, экономическую, военную, экологическую, гуманитарную и информационную безопасность.

Необходимо такое реформирование системы национальной безопасности, которое обеспечит защиту интересов личности, общества и государства. Сегодня же система безопасности в Республике Беларусь создана под одного человека, под его личный режим. Законодательная, исполнительная и судебная ветви власти назначаются одним человеком сверху донизу и исполняют его волю. Поэтому говорить о реформировании системы национальной безопасности в условиях сегодняшнего режима просто бессмысленно. Нужно менять власть. Потом реформировать главные составляющие этой системы — законодательную, исполнительную и судебную ветви власти, сделать их действительно независимыми друг от друга.

Тогда можно будет реформировать и силы обеспечения национальной безопасности: Вооруженные Силы Республики Беларусь (ВС), органы Государственной безопасности (КГБ), Министерство внутренних дел (МВД), Пограничные войска, таможни, железнодорожные войска, разведку, налоговую службу.

В каком состоянии находятся сегодня Вооруженные Силы Республики Беларусь? Нужна ли реформа армии?

Конечно, да! Но вопрос нужно поставить по-другому. А нужна ли вообще армия нынешнему руководству страны? Сегодняшнему режиму нужен огромный аппарат подавления внутри страны — КГБ, МВД, охрана президента и т.д. Оснащенные, оплачиваемые. Армия не нужна.

На сегодняшний день мы имеем массовый исход из армии офицеров, особенно молодых, которые не видят в ней своего будущего. Низкая заработная плата, а если дослужишь до пенсии — нищая пенсия. Раньше офицер ждал квартиру, сегодня их бесплатно не строят. В кооператив вступить по блату можно, но платить при этом ежемесячный взнос, в несколько раз превышающий заработную плату. И идет офицер на "шабашку", если нет у него в армии должности, где можно иметь дополнительный доход. И перестает он уважать себя, свою форму, которой всегда гордился, армию и государство, с которыми он подписал контракт. Правда, в контракте от него требуется много, а армия, то есть государство, ему не гарантирует ничего. Сегодня лейтенантов военные прокуроры привлекают к материальной ответственности, если они не дослужили по контракту несколько лет. От 0,6 до 7 миллиардов рублей суд определяет компенсацию ущерба, нанесенного лейтенантом армии.

А какой иск может предъявить офицер сегодняшней власти через президентские суды? Никакого.

Расчет ясен — под страхом наказания заставить служить. На это же направлен и Декрет президента №13, по которому офицер, уволившись, имея на это право по закону, пенсию не получает несколько лет, пока не доживет до пенсионного возраста (а может и не дожить, в прямом смысле этого слова). Факт, как говорится, налицо — жестокое крепостное право и желание удержать офицера в армии через преступное нарушение закона.

Когда-то маршал Г.Жуков сказал: "Я не хочу, чтобы офицеры стали попрошайками. Если они станут нищими, то не будут воевать и никто не сможет признать в них офицеров. Офицер должен быть сыт и способен обеспечить более-менее соответствующую поддержку своей семье".

Это сказал великий полководец, подписавший акт о капитуляции фашистской Германии в 1945 году.

А что же наши полководцы?

Идет тихая распродажа вооружений и боевой техники, офицеры разбегаются сами. Проблем не создают, квартир не просят. Какой "удачный" способ сокращения Вооруженных Сил Республики Беларусь! Без всяких концепций реформирования системы национальной безопасности и военной реформы.

Излишки есть, и продажа их — не самое страшное. Страшно то, что продается лучшее, худшую технику никто не купит. И потом: куда идут эти средства? За комплекс ПВО С-300, проданный в США, за 18 истребителей МИГ-29 — в Перу, за 100 танков — в Венгрию? Это почти полмиллиарда долларов, но деньги, как я знаю, прошли мимо государственного бюджета и осели в президентском бюджете. Такого нет в мировой практике, но для сегодняшнего руководства республики, видите ли, это норма.

Почему они не попали в бюджет государства? Почему часть из них не вернулась в армию, на восстановление боеготовности войск, строительство жилья офицерам, обмундирование?

Я считаю, что Главнокомандующему в это нищее время нужно не закупать персональные самолет, вертолеты, строить резиденции, а думать, как накормить народ, как готовить защитников отечества, кто будет защищать государство. Что это за летчик, который почти не летает? Вместо 60—70 часов налета он имеет 20—25 часов. А как тут не сказать о нищих офицерах, многим из которых жены или невесты ставят условия: уходи из армии, зарабатывай деньги в коммерции. Из престижных женихов они превратились в низкооплачиваемых служащих.

Знает ли Главнокомандующий, что конкурс при поступлении в Военную академию в этом году был менее чем один человек на место для Вооруженных Сил Республики Беларусь. Зато на факультете МВД, Пограничных войск в этой же академии — по несколько человек на место.

Безусловно, там тоже нужны хорошие специалисты, преданные делу люди. Но я о другом. Там лучше одеты, туда все внимание власти, там почет. И чем лучше выполняется заказ в системе подавления, тем больше почета, и больше заплатят. Не готовность к защите Отечества от внешних врагов (армия всегда готовится для этого), а уничтожение, подавление инакомыслия, сохранение преступного режима — это и есть сегодняшняя государственная политика в военной области.

А почему молчит главный полководец Министерства обороны? Он не молчит, а задает на совещании начальникам управлений и служб странные вопросы.

Например, почему нет конкурса при поступлении в Военную академию? А где они возьмут абитуриентов больше, если народ смекнул, под какими погонами больше платят в нашем, простите, перевернутом с ног на голову государстве. Или еще: "Встаньте те, кому я плачу пенсионную надбавку!", "Почему вы плохо работаете, я же доплачиваю вам?"

Тех, которым доплачивают, — около 20 процентов. Они встают на совещании, их ругают. 80 процентов сидят, им не доплачивают, хотя положено, поэтому не спрашивают за качество работы. Согласитесь, это уже не анекдот, это — абсурд!

Задаю вопрос Главнокомандующему: почему платите министру обороны пенсионную надбавку? За такой развал армии к ответственности привлекать надо, а не доплачивать!

Доплачивает потому, что министр обороны ничего не требует для армии, не защищает ее от развала, предан. И не молчит, а докладывает Главкому о "высочайшей" боеготовности армии. Главком в свою очередь объявляет публично, что белорусская армия — одна из наиболее "боеготовных" в Европе. Остается, мол, только вернуть ей ядерное оружие, вывоз которого был, по словам Главкома, преступлением. А Конституция, безъядерность? Еще раз поменяют, нет проблем. Наш толерантный народ поддержит. Такой министр и его "объективные" доклады устраивают обоих, кроме тех, кто служит в этой армии.

В Советской армии все было четче: оценивали, выдвигали, назначали на вышестоящие должности по деловым качествам. Кадровая политика сегодняшнего режима другая, главное — преданность, а деловые качества, талант, тем более инициатива не обязательны, а то и вредны.

*(Окончание на 2-й стр.)*

## В Островце пожимали руки своим западноевропейским партнерам

Принимают зарубежных гостей не только в столице, но и в периферийных городах и поселках. Недавно в г.п.Островец члены местной районной организации Объединенной гражданской партии пожимали руки своим западноевропейским партнерам.

Островецкую районную организацию ОГП по линии межпартийного обмена опытом посетила делегация дружественной Консервативной партии Великобритании в составе господина Мориса Кука и Джеса Бэнкса. Во время встречи состоялся заинтересованный разговор и обмен мнениями по широкому кругу вопросов. Достигнуто полное взаимопонимание по различным проблемам.

С обеих сторон выражено искреннее желание к дальнейшему более тесному межпартийному сотрудничеству и укреплению связей.

**И.КРУК,**
**председатель Островецкой районной организации Объединенной гражданской партии, член Национального комитета ОГП.**

## Вядомы барысаўскі прадпрымальнік І.Леднік, які абвінавачваўся па трох артыкулах КК РБ, вызвалены ў зале суда

Прама ў зале гарадскога суда Барысава, быў вызвалены вядомы барысаўскі прадпрымальнік, дырэктар рэгіянальнага цэнтра Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый Ігар Леднік. Падчас чатырохдзённага судовага разбіральніцтва ў абвінавачанні І.Ледніка выявіліся сур'ёзныя праблемы і недахопы, у сувязі з чым адвакат, а затым і пракурор, заявілі хадайніцтва аб правядзенні дадатковай фінансавай экспертызы і вызваленні падсуднага.

Ігар Леднік быў арыштаваны 15 лютага гэтага года. Ён абвінавачваецца па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса РБ — утойванне прыбытку і даходаў, парушэнне парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці і махлярства. Летам у Жодзінскім судзе І.Леднік правёў 17-дзённую галадоўку пратэсту ў знак парушэння сваіх правоў на аб'ектыўнае расследаванне крымінальнай справы.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

Пр. Кір'яка, Феафана
К. Максіміляна, Серафіма, Еўстаха.

**КАСТРЫЧНІК**
**12**
**'99 АЎТОРАК**

Усход 6.32
Захад 17.20
Даўж. дня 10.48

Маладзік
9 кастрычніка
Усход 10.30
Захад 19.48

